DRUHI NAKŁAD PAŚLA KANFISKATY

№ 2 (118). Вільня, 8 Студня 1938 г. Год X.

# Шлях Моладзі



# Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ



## На парозе Новага 1938 Году

* * *

*Ні шэрых дзён, ні песень шэрых,*
*Нам іх ня выкінуць за плот.*
*Здаўна прывыклі з новай верай*
*Вітаць заўсёды Новы Год.*

*Расьце надзея і трывога,*
*Растуць пытаньні у грудзёх:*
*Ці хутка скончыцца дарога*
*З крыжом на змучаных плячох?*

*Што прынясець пад стрэхі гэты?*
*Якія зьмены? Ці дары?*
*Ці сьціхне боль...ці згінуць беды?—*
*Хацелі-б ведаць мы згары.*

*Пакінем бавіцца ў загадкі,*
*Што крые даль—згадаць ня нам.*
*За шмат ня вер ў прыметы братка*
*А вер сабе і мазалям!*

М. МАШАРА

* * *

*Йзноў ужо Новы Год!*
*Яму на плечы новыя жаданьні,*
*На лепшы быт спадзеўкі,*
*І долю й лёс кладзе народ...*
*Пад горачу гарэлкі*
*Вірують пары ў п'яным тане...*
*Раве музыка пад палачку маестры*
*І ўсе ў сьцюдзёну зорну*
*ноч Сыльвэстры*
*Вясёла спатыкаюць Новы Год!..*

*Мы-ж гэты Год свой спатыкаем*
*Таксама з вераю у лепшы гараскоп.*
*Ды з тых гадоў, што йдуць у век,*
*Мы году Новага чакаем,*
*Калі ўбача лепшу долю чалавек...*
*Калі мы зьвяжамся у моцны сноп...*
*І Беларус тады ў сваім рээстры*
*Яго адзнача ў ноч Сыльвэстры—*
*Бо гэта будзе ў шчасьці Новы Год!..*

Слонім. Я. В.

Мінаюць гады. Час ідзе. Прыступаем ужо да працы ў Новым 1938 Годзе. Мімаволі аднак агляпаемся назад. Дасьледжваем прошлае і ўкладаем плян дзейнасьці на найбліжэйшую будучыню.

1937 год ня быў для нас мілым. Але агулам справа беларуская, не зважаючы на няспрыяючыя абставіны, пасунулася наперад. Найбольшы ўдар дасталі Беларусы ў 1937 г., бязумоўна, ад камуністаў у БССР. Арышты, расстрэлы беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў, культурных працаўнікоў і палітычных дзеячоў, бесканечныя чысткі ад „нацдэмаўшчыны" — гэта нішто іншае, як нішчэньне беларускага адраджэнскага руху. Бальшавіцкі ўдар, гэта ўдар ня толькі для Беларусаў у БССР, гэта ўдар і для беларускае справы ў Польскім Гаспадарстве і для Беларусаў агулам, і дзеля таго ён асабліва балючы. Нішчэньне беларушчыны на ўсходзе яшчэ больш за вастрае асыміляцыйныя апэтыты польскіх шовіністаў —эндэкаў і ім падоб. і дае свабодную руку польскім палітыкам у беларускай справе. — Мядаль аднак мае два бакі. Прасьледаваньне Беларусаў у БССР сьведчыць так-жа, што беларускі нацыянальны рух расьце і магутнее. Мы бачым, што бальшавікі ўжо 19 год усеўладна пануюць у Усходняй Беларусі, праводзяць сваю камуністычную палітыку, а з кожным годам усё што-раз большыя мусяць праводзіць чысткі. Гэта балючы, але і найлепшы доказ жывучасьці беларускае нацыянальнае ідэі і імкненьня Беларускага Народу да самастойнасьці. І ня толькі камуністы, але і ўсе іншыя аматары асыміляцыі Беларусаў ня змогуць вырваць душы беларускае, скрывіць яе і спыніць беларускі адраджэнска-вызвольны рух.

Пасьля закрыцьця ў канцы 1936 г. беларускіх культурных арганізацыяў: Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы ў Польскім Гаспадарстве, шмат каму здавалася, што праца ў гэтай галіне заціхне і замрэ. Тымчасам, як усюды і заўсёды, забарона выклікае адваротныя вынікі. Праўда, ліквідацыя беларускіх культурна - асьветных арганізацыяў пазбавіла Беларусаў магчымасьці арганізаванае супольнае культурнае працы, затое аднак пабудзіла яна Беларусаў да большае заўзятасьці, стойкасьці і натужэньня працы паасобных працаўнікоў на беларускай ніве. І яшчэ ніколі, за апошнія 10 год, ня меў беларускі цэнтр гэтулькі доказаў узросту беларускае нацыянальнае сьведамасьці, як у 1937 г. У чым гэтыя доказы выявіліся, ня будзем тут пісаць — уважаем гэта беспатрэбным і бескарысным, ды хто гэтым цікавіцца, той можа гэта бачыць у народзе. Агулам беларуская праблема ў Польскім Гаспадарстве, ня гледзячы на розныя перапыны, усьцяж вылазіць наверх. Беларуская праблема ўжо праяўляецца ня толькі на судовых працэсах беларускіх дзеячоў і сялян, але таксама на працэсах перадавых польскіх маладых дэмакратычных дзеячоў. Беларускай праблемай займаюцца так-жа перадавыя, дальнавідныя, польскія публіцысты і палітыкі, разважаючы яе, як праблему між-

народнага значэньня. Справай беларускай цікавіцца ўжо ня толькі блізкія суседзі, але Немцы і нават далёкія Японцы. Такія аб'явы, бязумоўна, прызнаём для беларускага адраджэньня дадатнімі. Асабліва-ж цяпер, у час вялікага ажыўленьня ў міжнароднай палітыцы і пры перагрупоўцы сілаў.

Жывучы ў Польскім Гаспадарстве, апіраемся на Канстытуцыю, і спаўняючы адносна яго свае грамадзянскія абавязкі, як лёяльныя грамадзяне, будзем дамагацца належных нам правоў выплываючых з канстытуцыі і загарантаваных міжнароднымі дагаворамі, як нацыянальнай меншасьці. Будзем далей дамагацца беларускіх школаў, свабоды беларускае культурнае, асьветнае, гаспадарскае і грамадзкае працы. Адначасна будзем працаваць дзеля палепшаньня долі Беларускага Народу, дзеля ўзгадаваньня культурнага і грамадзкага беларускае моладзі, а перад усім дзеля ўзгадаваньня ідэйных кадраў беларускае моладзі, якая магла, працаваць дзеля поўнага адраджэньня Беларускага Народу і калі трэба цярпець за яго інтарэсы.

Верым, што беларуская моладзь, а таксама і бел. грамадзянства нас падтрымае і з гэтай верай пачынаем працу ў Новым 1938 Годзе.

Я. Н.

# ZASYPAJMA ROŬ, JAKI NAS DZIELIĆ!

(*Z kaladnich razvažańniaŭ*)

Vialikija chryścijanskija śviaty, asabliva Kalady i Vialikdzień, z pryhožymi svaimi abradami, tradycyjaj zaŭsiody pabudžajuć ludziej da hłybiejšych razvažańniaŭ. Čałaviek faktyčna, aprača pažyvy dla svajho cieła, patrabuje padtrymańnia duchovaha. Patreba heta adčuvajecca pieradusim tady, kali pieražyvajem hora, niadolu, dy zmahajemsia z siłami macniejšymi ad nas. Tady asabliva šukajem Praŭdy, Spraviadlivaści, Krasy i Dabra.

Kali havaryć kankretna i ab Biełaruskim Narodzie, ab biełaruskaj moładzi i intelihiencyi, to treba śćvierdzić, što žyćcio, bieh historyi niejak dziŭna zdaŭna ŭžo Praŭdu ad nas uściaž zakryvali. Chryścijanstva ŭ vopratcy „viery polskaj" i „viery ruskaj" nie adyhrała ŭ nas naležnaje roli. Vopratka heta faktyčna daviała da taho, što ani katalictva, ani pravasłaŭje nia maje ŭ nas praŭdzivych hłybokich karenniaŭ. Bo jak katalictva, tak i pravasłaŭje pradstaŭlena narodu nia zhodna z ducham sapraŭdnaje chryścijanskaje navuki. Z hetaje pryčyny z raźvićciom śviedamaści, rodzicca bunt dušy i to pieravažna bunt razburajučy. Toj, što zbuntujecca praciŭ „viery polskaj" abo „viery ruskaj", časta paśla nia moža ŭzyjści na pravilny šlach, jaki viadzie da Praŭdy, a papadaje na razdaroža, abo ŭ praciŭležnaść. Taki zbuntavany čałaviek, nie pryznajučy viery, a šukajučy adnak Praŭdy, zmahajučysia za dabro svajho narodu, nia moža časta navat zrazumieć svajho brata, katory taksama pakinuŭ „vieru polskuju" ci „ruskuju", ale nie pakinuŭ chryścijanstva, katoraje viadzie da Praŭdy. Taki zbuntavany čałaviek vystupleńni niazhodnyja z jahonym pahladam na spravu viery i relihii namahajecca navat zaličyć da adstarełych i niakulturnych.

Takim čynam niastača hłybiejšych karenniaŭ chryścijanstva, padzieł Biełarusaŭ na „ruskich" i „polskich", a taksama volnadumstva zvodziać nas na biezdaroža, dzielać i asłablajuć. Miž biełarusami pravasłaŭnymi i katalikami, nia hledziačy na ŭzrost nacyjanalnaje śviedamaści, isnuje ŭsio-ž vialiki roŭ. Roŭ hety hrozny i niekarysny dla spravy biełaruskaha adradžeńnia. Adčuvajecca sapraŭdy vialikaja patreba pahłybleńnia viery i pracy dziela taho, kab sprava relihijnaja nie chadziła kryvymi darožkami i kab relihija nia była ŭ nas vykarystyvana dla asymilacyi Biełaruskaha Narodu. U nutranym-ža našym žyćci patreba jość

# Уплыў клімату на арганізм жывёлы і чалавека

Клімат, гэта сума ўсіх атмосфэрычных зьявішчаў у дадзенай мясцовасьці, як цяпліня ці мароз, сонца, дождж, вецер. Уплывае ён на арганізм двума спосабамі — на скуру і на траўленьне. Дзеля таго, каб ясьней зразумець уплыў яго на скуру, падамо тут коратка будову скуры.

Скура чалавека і жывёлы складаецца з трох частак: вонкавай, наскурак (*epidermis*), сярэдняй, сапраўднай скуры (*cutis*) і нутраной злучаючай ткані (*subcutis*). Пад уплывам тэмпэратуры кожная з гэтых частак скуры захоўваецца йнакш. Цяпло ўплывае перадусім на самую вонкавую частку скуры (*epidermis*). Жылы, якія знаходзяцца блізка верхняй часткі цела, расшыраюцца і кроў больш даплывае да *epidermis'a*. Кроў мае ў сабе спажыву, якой корміць іменна гэтую частку скуры. Таму яна пад уплывам высокага цяпла робіцца таўстой. У жывёлы ўмеркаванага клімату (краінаў умяркавана цёплых, напр. Беларусь) наскурак (*epidermis*) ёсьць тонкі і не перавышае аднаго працэнту (аднэй сотай часьці) ўсяе скуры. — Зусім іншае наглядаем мы ў жывёлы гарачага клімату. Так напрыклад слон, тапір, гіпопотам, насарог і іншыя маюць наскурак параўнаўча да іншых частак скуры вельмі таўсты. Таму, што да наскурка даплывае шмат крыві, яна не аджыўляе, (ня корміць) належна скуры сапраўднай, дзе месьцяцца завязі шэрсьці (поўсьці) і таму жывёла гарачага клімату мае малую рэдкую шэрсьць. Бачым мы гэта на прыкладзе выш успомненых зьвяроў, якія маюць таксама тонкую злучаючую ткань, бо і да яе мала даходзіць крыві. Арабскі конь, які прабывае ў сухім і гарачым клімаце, мае вельмі кароткую і рэдкую поўсьць й тонкую сапраўдную скуру (*cutis*). Таму ў яго відны на версе кожны мускул, кожны выступ касьцей. Інакш уплывае холад, ад якога жылы ў наскурку жывёлы звужваюцца, зьмяншаюцца і амаль уся кроў ідзе тады да скуры (*cutis*) і да злучаючай ткані (*subcutis*). Даходзячы да скуры кроў аджыўляе добра завязі шэрсьці, якая тады буйна расьце. Бачым мы гэта ў зьвяроў поўначы, як паўночная лісіца, собаль, куніца. Тое самае, ў ярчэйшай толькі форме, бачым і на нашай жывёле хатняй. Уся наша хатняя

bolšaj tolerancyi i pašany adnych da druhich.

Pišučy ab hetych spravach, nia možna nie adciemić vystupleńnia pravadyra francuskich kamunistaŭ M. Thorez'a, ab jakim šyraka pi sała francuskaja katalickaja hazeta «La Croix». Voś-ža Thorez u ad nej z svaich pramovaŭ vyskazaŭsia ab siaredniavieččy, katoraje na jahony pahlad, zusim nia jość epochaj ciemnaty i adstałaści, a naadvarot, epochaj hramadzkaj daskanałaści i vysokaha ümysłovaha üzrovienia relihijnych konhrehacyjaŭ. Aprača taho Thorez pachvalaŭ papiežaŭ i ichnija encykliki, addajučy češć advazie i vialikadušnaści hramadzkaj doktryny Kaścioła.

Vystupleńnie Thorez'a, nia hledziačy na toje, jakimi pryčynami było vyklikanaje, maje vialikaje značeńnie i jość miž inšym mocnym udaram i dla našych volnadumcaŭ, katoryja ŭ svaich vystupleńniach suproć relihii i chryścijanstva atakavali pierad usim siaredniaviečnuju minuŭščynu Kaścioła i papiežaŭ.

Ahułam treba skazać, što na zachadzie Eŭropy roźnica relihii, vieravyznańnia nie kapaje miž ludźmi tak vialikich ravoŭ, jak u nas. I nam Biełarusam treba zasypać toj roŭ, jaki nas dzielić. Treba pamiatać ab tym, što my pieradusim biełarusy i chryścijanie. A adno i druhoje vymahaje, kab tvaryli my adnu zhodnuju vialikuju biełaruskuju siamju.

**J. N.**

*Z I M O J U*

*U zmroku viačernim daroha...*  
*Čyrvienić pažaram zachod.*  
*Znajomaja z daŭna tryvoha*  
*Zavieć majo serca u pachod.*

*Navokał syrym syradojem,*  
*Pakryŭ ŭsiu vakolicu śnieh.*  
*Tam niedzie žyćcio jość žyvoje,*  
*Jość niedzie i radaść, i śmiech.*

*Vandroŭnaja torba hatova.*  
*Rastańniu ŭ kut pakłaniuś,*  
*Puščusia darohaj znajomaj*  
*Taptać znovu tropy kamuś.*

*Pa ściežkach ad vioski da vioski*  
*Viadzieć maja pieśnia mianie.*  
*Kraj rodny — tvaje ŭsie darožki*  
*Ja znaju — jak biedy tvaje.*

*U zadumie staju la paroha,*  
*Tryvoha u sercy raście.*  
*U zmroku viačernim daroha*  
*Čokaje i kliča mianie.*

*M. MAŠARA.*



жывёла вытварае на зіму пух, даволі густы, які скідае толькі ўлетку наступнага году. Такія зьвяры, як белы мядзьведзь, кіт, цюлень, прабываючы ў палярных водах прад стратай цяпла бароняцца йнакш, яны ў злучаючай ткані (*subcutis*) вытвараюць пласт тлушчу, які не дапускае марозу: тлушч, як ведама, ёсьць кепскім правадніком цяпла. І таму напр. худыя, заморaныя людзі і жывёла, якія ня маюць тлушчу, мерзнуць зімою.

Бывае таксама розьніца ў аджыўляньні. Пры высокай тэмпэратуры арганізм патрабуе менш ежы, пры нізкай больш. Арганізм чалавека і жывёлы мае пэўную, аднастайную тэмпэратуру. Калі акружаючае чалавека паветра бывае халаднейшае за цяплiню ягонага цела, тады цела вылучае цяпло, каб гэтую розьніцу выраўняць, а цяпло ў арганізьме бярэцца толькі і толькі з ежы.

Каб шмат не гаварыць, падамо тут канкрэтны прыклад. Адзін дасьледчык пачаў 16 студзеня карміць ката. Карміў яго па аднэй норме (аднолькава) праз 5 месяцаў. У зімовыя месяцы да 30 сакавіка, кот не папраўляўся, вага яго аставалася аднолькавай, увесь час — каля $2\frac{1}{2}$ кілё. Затое як толькі наступіла вясна, кот пачаў папраўляцца і да 15 чэрвеня дарос да 3 кілё з гакам. Зазначым тут, што гэта быў кот стары, ён ня рос, а толькі папраўляўся ў цепе. Кот гэты ў тэмпэратуры — 3.2$^0$Ц. амаль удвая больш выдыхаў $CO_2$(двутлёністага вугля) чымся пры + 30,8$^0$Ц. Выдыханьне было таму зболынана, што кот больш удыхаў тлёну, які йшоў як гаручы матар'ял на ўнутранае спаляньне. Пасьля спаленьня вытвараўся газ $Ce_2$*).

Гэты прыклад мае вялікае практычнае значэньне, бо ён паказвае, што ўзімку трэба лепш карміць жывёлу, каб яна не цярпела ад холаду. Калі няма вельмі чым карміць, пажадана было-б канешна зрабіць цёплы хлеў. Тое самае значэньне мае цяпліня ў нутраной ежы. Адзін дасьледчык даваў халодную пашу карове. Давала яна яму 13.6 літраў малака. Калі-ж ён тую самую пашу нагрэў і даў карове, яна яму аддала у дадатак 1,8 літраў малака. Усяго дала 15.4 літра малака.— Цікавы йшчэ прыклад, як цяпло ўплывае на'т на плоднасьць арганізму. Так напрыклад здаўна было вядомым, што некаторыя рыбныя паразіты складаюць свае яечкі толькі летам, пры цяпле.

*) Спаляньнем называецца хімічнае злучэньне О(тлёну) з іншым хімічным элемэнтам. У нашым выпадку з вуглем С).

# Radyjo i jaho vynachodčyk

Cudam siańniašniaj techniki nazyvajuć radyjo, pry padmozie jakoha čałaviečaja dumka małankaj ablataje ziamlu.

Kališ było heta fantazijaj, a siańnia jość faktam. Słuchajem ciapier pryhožych pieśniaŭ i muzyki z dalokich krajoŭ. Možam zhavarycca pry padmozie telehrafu biaz drotu na tysiačy kilometraŭ i h. d. Niechta moža zapytaje: chto hetyja tajnicy pryrody vykryŭ i zaproh usiamu čałaviectvu na słužbu. Sam bieh žyćcia čałaviectvu hetaha nia daŭ, heta ŭsio stvaryła žmudnaja praca hienijalnych adzinak, katoryja, časta nie škadujučy svajho zdaroŭja, a na't i žyćcia, imknulisia ŭhłybicca ŭ tajnicy pryrody, vykryć hetyja tajnicy i addać čałaviectvu na karystańnie. Siarod nievialikaha liku hetkich hienijaŭ znachodzim takža proźvišča vynachodčyka radyja — Markoni.

Słaŭny hety vynachodčyk Vilhelm Markoni radziŭsia 25 krasavika 1874 h., niedaloka miesta Bolonii ŭ Italii. Baćka Vilhelma byŭ italijaniec, a matka—škotka. Zdolnaści techničnyja Vilhelm atrymaŭ u spadčynie ad baćki inžyniera, a praktyčnaść žyćciovuju i bystratu rozumu—ad matki. Mataryjalnyja ŭmovy žyćcia baćkoŭ pazvolili Markoni'mu zdabyć navuki. U Florencyi V. Markoni skončyŭ himnaziju, a paśla pastupiŭ u techničny instytut u Livornie, hdzie ŭsioceła addaŭsia navucy fizyki i chemii. Hetu halinu navuki małady Vilhelm staraŭsia paznać nia tolki ŭ teoryi, ale takža i ŭ praktycy. Časta zastanaŭli vajučysia nad drabiazoj i starajučysia ŭjavić jaje ŭ praktycy, vyklikaŭ hetym samym śmiech i naruhi z boku svaich kalehaŭ, ad katorych, kab mieć spakoj, Vilhelm časta staraniŭsia i rabiŭsia zamknutym u sabie. Pad kaniec XIX stahodździa, kali V. Markoni zdabyvaŭ sabie viedu, navuka fizyki stajała na vysokim roŭni i była vielmi raspaŭsiudžanaj. U henym časie fizyk anhielski Makwel dakazaŭ u teoryi, što ŭ nadziamielnym pavietry znachodziacca elektromahnetyčnyja chvali. Paśla jaho druhi viedamy niamiecki fizyk Hertz hetyja elektromahnetyčnyja chvali vynajšoŭ. Astałosia tolki hetyja elektromahnetyčnyja chvali datasavać da peŭnych metaŭ u praktycy. Hetu rabotu paśla doŭhich doślядaŭ zrabiŭ V. Markoni, i ŭžo ŭ 1895 h. pry padmozie elektromahnetyčnych chvalaŭ pieršy raz pierasłaŭ umoŭlenyja znaki (syhnały) aparatam biaz drotu (radyjem). Praŭda, adlehłaść pamiž aparatam pieradačnym a pryjomnym špiarša była niaznačnaja, usiaho na niekalki sot metraŭ, ale z bieham času pry dalejšych doślедach nad palepšańniem vynajdzienaha aparatu, hetu adlehłaść biazmiežna zbolšyŭ.

Svajo adkryćcio V. Markoni patentavaŭ u svajej baćkaŭščynie Italii. Ale tut mała chto zacikaviŭsia radyjem, jak małavartasnaj rečaj, dziela hetaha Markoni vyjaždžaje ŭ Anhliju i tam šukaje



V. Markoni

mataryjalnaj padmohi, kab dalej palepšać svoj aparat. U Anhlii zademanstravaŭ svoj aparat anhielskamu dyrektaru pošty Praisu, katory vielmi zacikaviŭsia novym adkryćciom i pamoh mataryjalna maładomu Vilhelmu. Paśla hetaha anhielski ŭrad praznačyŭ V. M. uradavuju padmohu, dziakujučy jakoj vynachodčyk udała vioŭ dośledy nad palepšańniem radyja, tak što ŭ praciahu hodu Markoni praz radyjo pasyłaŭ syhnały na adlehłaść 4 klm., a paśla i na 15 klm. U toj čas, kali V. M.

---

Калі-ж аднак заражаную рыбу перанесьці зімою у цяплейшую ваду, рады паразіты складаюць далей свае яечкі. У даным выпадку цяпло пабуджае, да жыцьця, холад-жа аслабляе яго.

*Націск паветра.* Націск гэты даволі вялікі і выражаецца ў націску 760 мілімэтровага стоўбіка ртуці на адзін квадратны см. чалавечага цела. (1 грам) Мы да гэтага націску прывыклі і прытасаваліся. Калі мы будзем падыймацца вышэй, пр. у горы, то разам з зьменай націску паветра (націск зьменшыцца) заўважым зьмены ў нашым арганізме: узбольшыцца колькасьць чырвоных кубікаў крыві. Дасьледзілі гэта шмат якія вучоныя падыймаючыся ў горы. Дзеецца гэта таму, што ўгары паветра радзейшае — менш значыцца там ёсьць тлёну, які неабходны кожнаму чалавеку і жывёле. Тлён разносіць па арганізме кроў (чырвоныя кубікі). Калі тлёну менш у паветры, трэба гэтага паветра больш удыхаць, таму арганізм вытворвае больш кубікаў, каб яны маглі даць рады накарміць арганізм тлёнам. Па зыходзе на ніз па нейкім часе колькасьць чырвоных кубікаў абніжаецца да нормы. (На працягу 8 тыдняў у дасьледчыка Viault на вышыні 4000 мэтраў колькасьць кубікаў паднялася з 5 мільёнаў у 1 кубічным мілімэтры да 8 міл.).

*Сьвятло* мае вялікае значэньне для арганізму. Асаблівае значэньне маюць тут фіолетавыя і сінія праменьні так напр. ведамыя кожнаму жабіныя яечкі і малыя жабкі (прачыкі) хутчэй разьвіваюцца на сьвятле, чымся ў цемнаце. Галуб, якому не давалі есьці і трымалі на сьвятле, згінуў у працягу 15 дзён, а другі галуб у цемнаце вытрымаў яшчэ 9 дзён (усіх 24). Першы на сьвятле траціў на вазе 3,8 грама ў дзень, другі ў цемнаце толькі 2.6 гр. У цемнаце ход траўленьня ў арганізме адбываецца вальней.

Зацямненьне мае свае дадатнія бакі пры кармленьні. На сьвятле жывёла вальней папраўляецца, у цемнаце хутчэй. Так напрыклад трус (кролік), якога кармілі праз 24 дні ў цемнаце, важыў больш як 2 разы за кроліка, кормленага пры сьвятле. На даўжэйшую мэту аднак цемната адбіваецца ад'емна на арганізме кормленай жывёлы і яна худзее. Таму пры кармленьні жывёлы трэба заўсёды глядзець, каб хлеў ня быў вельмі ясны, але і каб ня зусім цёмны. Для жывёлы, якая мае расьці, трэба даць шмат сьвятла. **П. З.**

ščaśliva pieramoh usie pieraškody źviazanyja z adkryćciom i palepšańniem radyja, kali astałosia tolki źbirać laŭry, znajšlisia ludzi, katoryja pačali mucić dumki vynachodčyka. Prad adkryćciom radyja, vialikija telehrafičnyja supałki pravili telehrafičnyja kabli praz mory i akijany. Pavadyry hetych supałak, ułažyŭšy vialikija kapitały, bajalisia kankurencyi biazdrotnaha telehrafu i pačali ŭsiakimi sposabami praśledavać vynachodčyka. Ale V. Markoni ŭsich svaich vorahaŭ chutka pieramoh i publična, pry zaprošanych vysokich haściach i hazetnych karespandentach, vysłaŭ svaim aparatam radyjotelehramu praz mora na vostraŭ adlehły na 5 klm. ad bierahu. Tady tolki vočavidcy prakanalisia ab važnaści adkryćcia radyja i da vynachodčyka pačali adnosicca z pašanaj.

U 1899 h. francuski ŭrad zaprasiŭ M. da siabie i paručyŭ jamu pabudavać radyjostancyju, kab mahčy pasyłać u Anhliju telehramy praz pratok Lamanš na adlehłaść 40 klm. 14 śniežnia 1901 h. radyjoaparatam z Pałdy (Anhlija) Markoni'mu ŭdałosia zhavarycca z Amerykaj.

Pačałasia novaja para, para radyja. Biazdrotnyja aparaty ŭsiudy pačali tasavać u žyćcio. U 1907 h. pravili stałaje spałučeńnie pamiž Eŭropaj i Amerykaj praz Atlantycki akijan. Biazdrotny aparat akazaŭsia asabliva karysnym i ničym niezastupnym u dalokich zamorskich padarožach. Śpiarša karabiel biaz radyja, vypłyŭšy na šyrokija vody akijanu i spatkaŭšy jakoje-koleČy niaščaście, nia moh dać ab sabie nijakaha viedama i vielmi časta biaz nijakaj padmohi hinuŭ u razšałełych chvalach akijanu; ciapier užo nia toje. Kožny karabiel maje pieradačny biazdrotny aparat, katory stała ŭtrymlivaje suadnosiny z ziamloj i stała padaje ab sabie viestki. Pieršy raz umoŭleny syhnał S.O.S. (ratujcie našy dušy) byŭ dany pry niaščasnaj zudercy na adkrytym mory parachodaŭ „Respublika“ i „Floryda“. Na syhnał S.O.S. na miesca niaščaścia chutka prybyli inšyja parachody i vyratavali padarožnych z niaščaścia. Heta vialikaje zdareńnie ŭ toj čas było apisyvana ŭ hazetach usiaho śvietu, słaviačy jašče bolš imia Markoni'ha i hetym samym reklamujučy na ŭvieś śviet jahonaje adkryćcio. Apača vyšskazanaha ŭ 1912 h. 12 krasavika najbolšy na śviecie karabiel „Titanik“ spatkaŭsia z ledzianoj haroj na adkrytym mory. U tym karabli płyło niekalki tysiač čałaviek. Chutka pa radyjo byŭ dany syhnał S.O.S., na jaki paśpiašylisia z padmohaj inšyja karabli. Dziela taho adnak, što vyłam ledzianoj haroj u karabli byŭ zrobleny vielmi vialiki, prybyŭšym karablom usich padarožnych nie ŭdałosia vyratavać; zahinuło 2.000 čałaviek, ale i šmat było vyratavana. U časie katastrofy „Titanika“ niazvyčajnaj advahaj adznačyŭsia matros radyjo-telehrafist Berens, jaki ŭ praciahu niaščaścia nieadstupna pracavaŭ pry radyjo, adkidyvajučy padmohu tavaryšaŭ. Astaŭsia adzin z aparatam na torčučym nosie ŭžo schavanaha ŭ vadu „Titanika“ i ŭ apošniuju chvilinu klikaŭ padmohi. Choć sam hetaj padmohi nie dačakaŭ. Uładziŭšy radyjoaparaty na karablach, padaroža praz akijany stałasia nia tak strašnai, jak dasiul. Nia minuła jašče 30 hadoŭ ad taho času, kali na karabloch naładzili pieradačnyja radyjoaparaty, a ŭžo dahetul vyratavali sotni tysiač achviar katastrof, za što čałaviectva pavinna być udziačna V. Markoni'mu. U časie Suśvietnaj Vajny radyjo-aparat jašče bolš staŭsia palepšany i datasavany da vajennych patreb. Siańnia-ž radyjo-aparat jość datasavany da kožnaj haliny žyćcia. U kožnym haspadarstvie jość pa niekalki, a na't i pa kolkinaccać mahutnych radyjostancyjaŭ. Na ŭsim śviecie raściahnieny milijony antenaŭ i milijony ludziej słuchajuć roznajakich kancertaŭ, navin i t. p.

Uvieś kulturny śviet, razumiejučy vynachad Markoni'ha, naležna acaniŭ Vialikaha Hienija navuki, nadajučy jamu roznajakija navukovyja tytuły i h.d. Jašče ŭ 1909 h. atrymaŭ jon naharodu Nobla.

Paśla Suśvietnaj Vajny, žyvučy ŭ svajej ajčynie Italii, V. Markoni i dalej pracavaŭ u halinie radyjo-techničnaj.

Niekalki hod tamu nazad italijanski ŭrad afiaravaŭ Markoni'mu parachod „Elektra“, u katorym jon naładziŭ płyvajučuju laboratoryju (pracoŭniu), dzie jon prabyvaŭ najbolš pry pracy, rabiŭ usialakija doślady, palepšyŭ radyja i ŭ 1930 h., pry padmozie radyjo-aparatu, zapaliŭ elektryčnaje śviatło ŭ dalokaj Aŭstralii ŭ mieście Sydnei. U Sydnei ŭ toj čas była naładžana mižnarodnaja vystaŭka i Markoni, buduči ŭ toj čas za tysiačy kilometraŭ, pacisnuŭ patrebnaje złučvo i zapaliŭ tysiačy elektryčnych lampačak.

Markoni byŭ čałaviekam silnaj voli i vielmi pracavitym. Nikoli jon nia spyniaŭ svajej pracy ŭ daśledžvańni nad radyjo-aparatam. Buduči starcam, jon ŭsioceła byŭ addaŭšysia dośledam nad televizijaj i karotkimi radyjo-chvalami. Pa jaho dumcy televizija ŭ niedalokaj budučyni budzie mieć vialikaje značeńnie ŭ praktycy i pryniasie čałaviectvu šmat karyści. Televizyjny aparat užo adkryty i tym jość cikavy, što pry jaho padmozie možam bačyć vielmi adlehłyja abrazy tych asob, katoryja stajać prad pieradačnym televizyjnym aparatam.

Adkryćci Markoni'ha pazvolili jamu ŭ davoli chutkim časie padniacca materyjalna. Pamior jon u 1937 h., pakidajučy pa sabie bahatuju spadčynu, abličanuju na niekalki sot milijonaŭ załatych.

Siańnia, choć Vilhelm Markoni nia žyvie, ale jaho vynachad viečna budzie žyć. Budzie tak-ža viečna žyć jahonaje imia. **Mienski.**



**Adna z mnohalikich radyjostancyjaŭ.**

# ŠTO ČUVAĆ

— U hazetach dalei pajaŭlajucca viestki, što ŭ **Polščy** chutka maje być źmiena ŭradu.— Z pryčyny pažaru savieckich vahonaŭ na stacyi Zdałbunova i sprečki miž savieckim čyhunščykam i polskim sieržantam, miž Polščai i SSSR dajšło da pavažnaj dyplamatyčnaj pierapiski i davoli vostrych vystupleńniaŭ u presie. Heta jašče bolš pryčyniłasia da taho, što adnosiny polska-savieckija stanoviacca što-raz bolš chałodnymi. — U Varšavie niadaŭna paŭstała „Konfederacja Młodych." jakaja maje viaści pracu dziela kulturnaha i palityčnaha zbližeńnia maładoha pakaleńnia narodaŭ: polskaha, ukrainskaha, biełaruskaha i litoŭskaha. Praca heta maje adbyvacca haloŭna pry pomačy presy i lekcyjaŭ. Cikava, jak heta praca budzie vyhladać u kankretnych formach?

— Pačynajučy ad 29.XII.1937 h. u **Irlandyi** abaviazuje novaja kanstytucyja, katoraja akančalna pieraryvaje nitki zaležnaści Irlandyi ad Anhlii. Ad hetaha času Irlandyja budzie nazyvacca Ajryja. Heta stary histaryčny nazoŭ hetaj krainy, jaki źmianili anhlijcy niavolačy jaje praz daŭhija viaki.

— Ahułam, choć pamału, ale ŭściaž z pad ułady Anhlii, paniavolenyja joj narody vyzvalajucca. Miž inšym i **Ehipt** choča akančalna parvać z joju. Staranu Anhlii trymaje adnak małady ehipiecki karol Faruk. Z hetaj pryčyny miž karalom i najbolšaj ehipieckaj partyjaj „vafdystaŭ" paŭstała nieparazumieńnie. Pieramoh pakulšto karol. **Araby** taksama. pašla karotkaha pieraryvu jznoŭ pačali vostraje zmahańnie z anhlijcami.

— Rasstrełam i aryštam u **SSSR** nia tolki niama kanca, ale jany z kožnym dniom pavialičvajucca. Tyja, što znajuć adnosiny ŭ Savietach, ćvierdziać, što ŭ 1937 h. rasstralana tam bolš 10 tysiač asob. GPU ścviardžaje-ž, što ŭ 1937 h. rasstralana 4.800 asob. „Kurjer Wileński" ćvierdzić, što achviaraj dźvioch piacilietak upała 16 z pałavinaju milijonaŭ asob. Bo pavodle raniejšych padličeńniaŭ u SSSR mieła być 185,5 milijonaŭ žycharoŭ, tymčasam u časie vybaraŭ u „Vierchovnyj Soviet" u 1937 h. vyjaviłasia, što ŭ SSSR jość tolki 169 milijonaŭ žycharoŭ. Nadviačy ŭ Vilniu pryjšli novyja sumnyja viestki dla Biełarusaŭ. Pavodle ich na Saloŭkach, kudy byŭ vysłany balšavikami, **pamior były biełaruski pasoł hramadaviec Piotr Miatła**—ščyry idejny biełarus. Niadaŭna byccam **aryštavany słaŭny vučony daśledčyk Poŭnačy, arhanizatar navukovaie ekspedycyi na paŭnočny polus, biełarus, prafesar O. Šmidt.** Słaŭny-ž saviecki latun Levanieŭski, jaki lacieŭ z Maskvy ŭ Ameryku praz Ledavity Akijan, nie zahinuŭ z pryčyny nieščaślivaha vypadku, a byccam skončyŭ samahubstvam, z viedama kamisara ŭnutranych spraŭ SSSR Ježova, jaki nazyvaŭ užo Levanieŭskaha „voraham narodu" i mieŭ z im raspravicca. Čytajučy hetkija i padobnyja viestki ŭ hazetach vieryć, prosta, nia chočacca, što štoś padobnaha moža dziejcca. Pašla hetaha sapraŭdy paŭstaje pytańnie, kali ŭsio heta končycca i kali končycca chłuśnia kamunistaŭ ab svabodzie i demokratyźmie ŭ SSSR?

— Paćvierdžańniem strašnych padziejaŭ u SSSR źjaŭlajecca, biazumoŭna, toje, što **Francyja,** jakaja źviazałasia z Savietami sajuźnickim dahavoram, advaročvajecca ciapier ad ich: šukaje parazumleńnia z **Niamieččynaj.** I to tady, kali ŭ Francyi palitykaj kirujuć sacyjalisty i radykały, a ŭ Niamieččynie hitleroŭcy-fašysty i kali Niamieččyna nia moža pachvalicca dabrabytam. **Čechasłavaččyna** taksama byccam maje viaści hutarki z Niamieččynaj ab zhodzie i dobrych uzajemnych adnosinach. Z vystupleńniaŭ niamieckich palitykaŭ vyhladaje, što jany tak-ža chočuć parazumleńnia z Francyjaj. — Kamunisty bačačy niavyhadnuju dla siabie palityku francuskaha ŭradu starajucca paraližavać žyćcio ŭ Francyi zabastoŭkami.

— U **Švajcaryi** prezydentam na 1938 h. vybrany dr. Baŭmann, siabra demakratyčnaj partyi.

— Na **Dalokim Uschodzie** Japoncy dalej bjuć Kitajcaŭ, katoryja zmušany adstupać. Z pryčyny zatapleńnia amerykanskaha karabla japoncy pieraprasili Zł. Štaty Ameryki i zabaviazalisia zbudavać Amerycy novy vajenny karabiel.

— U **Hišpanii,** pašla karotkaha pieraryvu ŭ baraćbie, ŭ kancy 1937 h. pačalisia vielmi zaŭziatyja i vialikija bai kala m. Teruel, katoraje pierachodzić z ruk u ruki ad paŭstancaŭ da uradaŭcaŭ i ad uradaŭcaŭ da paŭstancaŭ.

— U **Rumynii** adbylisia vybary ŭ parlamant. Dziela taho što ni adna partyja nie zdabyła bolšaści, na viasnu pradbačacca novyja vybary, a ciapier adbyłasia źmiena ŭradu. Novy ŭrad praf. Gogi adrazu asabliva padabaŭsia nacyjanalistam i jon pierad usim vystupiŭ suproć žydoŭ. Niekatoryja hazety pišuć, što ŭ Rumynii budzie zaviedzieny fašystaŭski ład.

*jn.*

# Z biełaruskaha žyćcia

Administracyjnyja ŭłady dalej nie dajuć mahčymaści arhanizavacca biełaruskaj moładzi. Inicyjatary novaje sproby stvareńnia kulturna-aśvietnaje arhanizacyi biełaruskaje moładzi, jakim u 1937 h. Vilenskaje Haradzkoje Starastva nie dało dazvołu na arhanizacyjny schod, uvažajučy zabaronu Starastva biezpadstaŭnaj, adklikalisia da Vil. Vajavodztva i prasili pastanovu Starastva skasavać. Vajavodztva adnak pastanovaj № SPP. 12c/146/37 z dn. 27. XII.37 h. zabaronu Starastva ŭtrymała ŭ sile. — Takim čynam biełaruskaja moładź dalej nia maje mahčymaści stvaryć svaju arhanizacyju..

**Kanfiskata.** 4.I sioł. Vil. Haradzkoje Starastva skanfiskavała № 13 „Wiadomości Białoruskich" z dn. 31.XII.37 za staćciu „Sobiepańskie duszpasterstwo."

**Sprava novaj biełaruskaj hazety.** Hod tamu na miesca spynienaj „Biel. Krynicy" Biełarusy ŭ Vilni mielisia vydavać „Narodnuju Krynicu." Ułady adnak nie dali dazvołu na heta, ćvierdziačy, što ŭžo hetkuju hazetu niechta pieršy dumaje vydavać. Zatym, što praz hod nichto henaj hazety nie vydavaŭ, Biełarusy ciapier uznoŭ paviedamili Starastva, što prystupajuć da vydaviectva „Narodnaj Krynicy".

**Sud nad red. J. Paźniakom.** U 1936 h. była skanfiskavana „Biel. Krynica" za adozvu „Za rodnuju škołu." Sud I instancyi redaktara J. Paźniaka za henuju adozvu zasudziŭ na 2 tydni aryštu i štraf. Sud II instancyi hety prysud 30.XII.1937 h. skasavaŭ i J. Paźniaka apraŭdaŭ.

**Bolš 4000 asob** adviedała Biełaruski Muzej u Vilni za pieršyja try kvartały 1937 hodu, nia hledziačy na toje, što h. zv. „turystyčnyja pravadniki." m.Vilni, jaho systematyčna bajkatujuć.




### Цьвёрда трымаемся свайго.

*в. Добраволя,* Сьвіслацкай вол., Ваўкавыскага пав. Пазашкольная асьвета ў нашай вёсцы, таксама як і ў цэлай воласьці знаходзіцца ў даволі цяжкім палажэньні. Іначай было пару год таму назад, калі ў Сьвіслачы, а так-жа і па вёсках былі свае родныя беларускія культурна-асьветныя арганізацыі — гурткі Т.Б.Ш. і інш. Тады ў нас сапраўды праводзілася вялікая культурна-асьветная работа. Калі пазакрывалі беларускія культурныя арганізацыі, здавалася, што моладзь зусім йзноў забудзе аб вышэйшых культурных і нацыянальных імкненьнях. Аднак так кепска ня сталася. Цьвёрдая воля моладзі і гарачае пачуцьцё любові да свайго роднага трымаюць яе на добрай дарозе. Культурна-беларуская праца хоць вальней, аднак далей ідзе, не хапае нам перад усім кніжак і беларускіх часапісаў. Нацыянальная беларуская сьведамасьць сярод жыхароў нашае старонкі стаіць даволі высака. Моладзь жыве між сабой у згодзе і добра знае, што гарэлка і разбой гэта найгоршыя нашыя ворагі. У вольны час моладзь супольна чытае кніжкі і газэты і слухае радыя, ня глядзячы на тое, што з гэтага часамі бываюць „непаразуменьні“ з паліцыяй. У гаспадарчым жыцьці адчуваецца незадаваленьне з камасацыі — з хутароў, — якая праведзена была ў нас бяз прырэзкі зямлі. Некаторым сапраўды жывецца вельмі цяжка. Вёска патрабуе надзелу зямлі, справядлівай зямельнай рэформы і пабочных заработкаў. **Ж.**

### Даносы і рэвізіі.

*Мір,* Стаўпецкі пав. Гарэлка і курэньне сярод моладзі пакрысе выводзяцца з жыцьця. Пакульшто аднак моладзь у нас, нажаль, ня ўмее йшчэ жыць паграмадзку. Па ўсей ваколіцы ёсьць яшчэ тыпы, якія без дайпрычыны могуць на чалавека нагаварыць ліха ведае чаго. Даходзіць наваг да таго, што прыводзяць і падводзяць паліцыю. Вось нядаўна хтосьць нагаварыў на аднаго жыхара в. Скамарошкі, падпішчыка „Шляху Моладзі,“ паліцыі, якая пасьля рабіла рэвізію, ды забрала „Шлях Моладзі.“ Каму з гэтага будзе карысьць? Хіба нікому. А трывога, ды незадаваленьне расьце.

Трэба адзначыць, што культурныя людзі даносамі брыдзяцца. **Скі.**

### Viestki z pad Drui.

*v. Šalciny kala Drui,* Brasłaŭski pav. Šalciny nazyvajuć časta „twierdzą białoruskości.“ Čamu?— tamu što tut isnavaŭ hurtok B.I. H. i K. Pa likvidacyi hurtka astalisia my biez svaje arhanizacyi. Niekatoryja siabry ŭvajšli ŭžo ŭ polskija arhanizacyi, dzie pravodziać svaje plany. U hetych arhanizacjach zrabili toje, što časta referaty i dyskusyi viaducca pabiełarusku, a tolki pratakoł pišacca papolsku. Kulturny ŭzrovień žycharoŭ našaje vakolicy davoli vysoki. Moładź hulaje prykładna. Na viečarynkach piaje biełaruskija pieśni, na't deklamuje vieršy. U volnym časie chvataje za słuchaŭki, kab daviedacca, što dziejecca na śviecie. Radyjo—kryštał stała łović chvali polskich radyjostancjaŭ, a nie razumiejučy što havora Ryha, Kaŭnas, słuchajuć Miensk, jaki karystajecca biełaruskaju movaju. Tut faktyčna lažyć adkaz na zakid polskaje presy, čamu biełaruskaja vioska słuchaje mienskaha radyja. Nie kamunizmu, ale biełaruskaje muzyki, pieśni, litaratury—słovam kulturnaje stravy ŭ rodnaj vopratcy šukaje biełaruskaja sialanskaja moładź. Inšaja sprava i ad jaje niezaležnaja, što časami mała krytyčnyja papadajuć u cnitra razstaŭlenyja sietki. Hetaha adnak nia mohuć ci nia čočuć ściamić palityki z vilenskaje radyjostancyi.—Dajcie nam biełaruskija pieradačy, a ŭsie nastavim na Vilniu. Nie prypadkova chiba na letnija miesiacy pryjaždžaje da nas „Straż Przednia“ z Łodzi. Spałučyŭšy jak kažuć, pryjemnaje z „karysnym,“ razychodzicca jana pa vioskach i pierakonyvaje moładź, „że Białoruś nie ma racji bytu.“ U adkaz na heta moładź bajkatavała ichnija imprezy („ogniska“). Dyk adjaždžajučy hetyja „letniki“ kazali: „Więcej na niewdzięczne Kresy nie przyjedziemy!“ Moža i dobra.

*Piotr Małatok*

## Vialiki palityčny praces u Vilni.

Ad 15 da 22 śniežnia 1937 h. u Vilenskim Akružnym Sudzie była razhladana sprava maładych polskich dziejačoŭ i publicystaŭ: dr. H. Dembinskaha, dr. S. Jendrychoŭskaha. mhr. M. Žeromskaj, Ul. Borysoviča, J. Schusa i maładoha paeta J. Putramenta, jakija vydavali ŭ 1936 i 1937 h. časapisy „Poprostu“ i „Karta“. Abvinavačanyja jany byli za prociŭhaspadarstviennuju dziejnaść. Sud pryznaŭ, što dr. H. Dembiński i dr. S. Jendrychoŭski rabili padhatoŭku da nasilnaj źmieny ładu Polskaha Haspadarstva i zasudziŭ ich pa 4 hady vastrohu, dy pazbaviŭ na 5 hod pravoŭ. Usich inšych abvinavačanych Sud apraŭdaŭ. Abarona zasudžanych padała apelacyju.

Treba adznačyć, što na pracesie henym uściaž była parušanaja biełaruskaja prablema. Pry tym dr. Jendrychoŭski i dr. Dembiński vyjavili svaje prychilnyja adnosiny da Biełarusaŭ, vykazvajučysia za terytoryjalnuju aŭtanomiju dla Biełarusi i Ukrainy i za zhodnyja adnosiny Biełarusaŭ i Palakoŭ.



### „Endeki“ lezuć na viosku.

*zaśc. Ajaleje kala Ašmiany.* Ludzi ŭ našym zaścienku nacyjanalna nia nadta dobra śviedamyja. Z pachodžańnia biazumoŭna ŭsie biełarusy, adnak mnohija ličać siabie palakami. Z hetaje pryčyny polskija „endeki“ pastaralisia sarhanizavać u nas hurtok „Čyn Narodovy.“ Zapisałasia ŭ jaho až niekalki čałaviek. I hetym ludziam ciažka rastłumačyć, što heta arhanizacyja polskich nacyjanał fašystaŭ i što jany vystupajuć nia tolki prociŭ Žydoŭ, ale i prociŭ Biełarusaŭ, dy ničoha dobraha nam nie niasuć. Heta śviedčyć, što dziela należnaha ŭśviedamleńnia treba ŭścia-ž pracavać. Usim-ža biełarusam treba zakładać svaje biełaruskija hurtki i arhanizacyi, bo jany tolki niasuć nam śviatło i lepšuju dolu!...

*L. B—ryk.*

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



## USIAČYNA

**„Kolki jość ludziej i ptušak na śviecie?** Pavodle niamieckaje statystyki ŭ 1937 hodzie ŭsich ludziej na śviecie było 2,116 milijonaŭ asob. Z hetaha liku na Aziju prypadaje 1,162 milijony, na Eŭropu — 526 mil., na Ameryku — 266 mil., na Afryku — 151 mil., na Aŭstraliju — 11 mil. Lik nasielnictva SSSR aznačaje hena statystyka 171 milijon. asob. Znajšlisia tak-ža ludzi, jakija ličyli ptuški na ziamli i ćvierdziać jany, što ŭsich ptušak jość 75 milijardaŭ.

**Pamirajuć staryja vajaki i dziejačy.** U kancy 1937 hodu pamior u Niamieččynie hien. Ludendorf, jaki ŭ časie Susvietnaj Vajny kiravaŭ niamieckaj armijaj. U kancy henaha-ž hodu pamior u Amerycy vialiki palityk F. Kellog, jaki pracavaŭ dziela supakoju na śviecie i za heta atrymaŭ naharodu Nobla.

**Milijard frankaŭ štodz eń na zbrajeńnie.** Liha Narodaŭ apublikavała statystyku, pavodle jakoje ŭ 1936 h. uvieś śviet vydaŭ na zbrajeńnie 355 milijardaŭ frankaŭ. Heta značyć kožny dzień śviet vydavaŭ na zbrajeńnie milijard frankaŭ.

**Samalot z harmataju.** U Złučanych Štatach Paŭnočnaj Ameryki zbudavali vajenny samalot na jakim budzie 2 harmaty i 5 kulamiotaŭ.

**Pavodka.** Italiju niadaŭna naviedała vialikaja pavodka, jakaja narabiła mnoha strataŭ.

**Kanfiskata aružža ŭ Abisynii.** Da 30.XI.37 h. italijancy skanfiskavali ŭ Abisynii 299 tysiač strelbaŭ, 1,500 revalveraŭ, bolš 1000 kulamiotaŭ i 171 bombaŭ.

### *Z vydavieckaj nivy*

**„Zorka".** Pad hetkim nazovam vydaviectva „Chryścijanskaj Dumki" pačało vydavać u 1938 h. časapis dla biełaruskich dziaciej, jak dadatak da „Chr. Dumki". Pieršy numar „Zorki" ŭžo vyjšaŭ. Cikavy jon i z pryhožymi ilustracyjami. Adrys redakcyi „Zorki": Vilnia, Zavalnaja 1. Maładomu hetamu biełaruskamu časapisu žadajem pamysnaha raźvićcia.

„Калосьсе" — літаратурна-навуковы часапіс — кніжка 4 (13). Год III. Вільня 1937. Бач. 64. Зьмест багаты і цікавы. Падпіска на год 2 зл. Цана аднэй кніжкі 50 гр. Адрыс рэдакцыі: Вільня, Завальная 1.

**Biełaruski Narodny Kalendar na 1938 hod (knižka).** Bač. 64. Cana 45 hr.

**Dr. Jadviha i dr. Stanisłaŭ Hrynkievičy — Alkoholizm.** Vydańnie „Chr. Dumki". Vilnia 1938 h. Bač. 14. Cana 10 hr. Hałoŭny skład: Biełaruskaja Knibarnia „Pahonia". Vilnia, Zavalnaja 1. — Brašura „Alkoholizm" vielmi cennaja i zasłuhoŭvaje na najšyrejšaje raspaŭsiudžańnie.

## Песьня каханьня

Дні бягуць і ночы,
Месяцы, гады, —
Твае, дзеўча, вочы
Ў сэрцы заўсёды
Ой, ці сьніў, галубка,
Ой, ці сьніў, гадаў, —
Каб твой твар і губкі
Іншы цалаваў...
Ах, мая дзяўчына,
Ты — мой майскі цьвет, —
Толькі успаміны
З тых шчасьлівых лет.
Ня шыбнець бяз крылаў
Сокал угару.
З болю ў сэрцы, міла,
Па табе памру.

**Мік. З—м.**

## Krychu śmiechu

***

— Čamu-ž ty nia daŭ bratu jabłyka?
— Ja jamu daŭ ziarniatki z siaredziny. Moža jon sabie ich pasadzić i budzie mieć cеły sad..

***

Adzin bahaty ziemlarob usimi siłami staraŭsia vučyć svajho nia nadta razumnaha syna i patraciŭ na jaho badaj usiu majemaść. Kali ŭ kancy pierakanaŭsia, što z jaho ničoha dobraha nia budzie, ciažka ŭzdychnuŭ i kaža: „Moj Boža, kolki-ž heta karoŭ pajšło na hetaha adnaho vałal..."

### *Praktyčnyja rady.*

**Jak paznać, ci karova cielnaja?** Treba nalić u šklanku čystaj ściudzionaj vady, paśla na sałominku ŭziać kaplu śvieža-vydajenaha małaka i straści henu kaplu ŭ vadu ŭ šklancy. Kali karova cielnaja, dyk kapla małaka nie raspłyviecca adrazu ŭ vadzie, ale celaja apadzie až na dno. Kali-ž karova nia cielnaja, to kapla jejnaha małaka razpłyviecca zaraz-ža na samym viersie vady.

**Čym najlepš napichać siańniki?** U nas pieravažna siańniki napichajuć sałomaju, a časami sienam. Tymčasam vielmi praktyčna napichać možna siańniki biarozavym liściem, biazumoŭna, dobra vysušanym. Siańnik napchany biarozavym liściem, miakki, lohki i im možna karystacca 7—8 hadoŭ. Sałoma, jak viedajem, skora pieracirajecca, biarozavaje-ž liście bolš tryvałkaje.

### *Паштовая скрынка*

Ф. Вайцілёнку і Я. Попко: Атрымалі, шчыра дзякуем. Прывітаньне!

Я. В.: За пажаданьні і вершы шчырая падзяка. Верш навагодні друкуем з папраўкамі, якія мусілі мы зрабіць з прычын цэнзуральных. Байку надрукуем у наступным нумары. Прывітаньне.

А. Гацуры: Верш слабы і да друку не падходзіць. Не падходзяць да друку так-жа і тыя вершы, аб якіх пытаецеся. Больш працуйце, чытайце і прыглядайцеся, як іншыя паэты пішуць. Памагчы Вам пры найлепшай ахвоце ня можам, бо ня маем магчымасьці.

Ул. Макашцы: Прысланыя вершы слабыя. Здольнасьці да пяра маеце, дык радзім Вам пісаць і працаваць над сабой. Добра было-б, каб прысылалі Вы нам карэспандэнцыі з жыцьця моладзі на вёсцы.

А. Чаромхіну: Вершы „Летні вечар" і „Аж да небасхілу" нішто-сабе. Надрукуем іх, але летам. Іншыя слабыя і да друку не падходзяць.

Я. Каліне: Верш „Яна стаяла" надрукуем, але вясной, бо цяпер ён не на часе. Верш „Восень" зусім слабы.

Avusu: Vieršy nia vytrymanyja raźmieram, kulhajuć. Bolš čytajcie i pracujcie nad saboj.

У. Рэха: За адрысы дзякуем. Вершы слабыя. Радзім перадусім пазнаць добра беларускую граматыку, правапіс, чытаць якнайбольш беларускіх кніжак. Пяра ня кідайце. Просім пры тым пісаць карэспэндэнцыі з жыцьця вёскі.

L. Bon—k: Karespandencyju drukujem. „Šlach Moładzi" vysyłajem. Prosim pisać čaściej.

М. Каколе: За добрыя словы і грошы шчыра дзякуем. Вершы слабаватыя. Пяра аднак ня кідайце, бо маеце да яго здольнасьці і калі будзеце больш чытаць і працаваць над сабой, то зможаце даць і добрыя матарыялы.

J. Bilu: Vieršy słabyja, radzim bolš čytać, paznać dobra biełaruskuju hramatyku i pravapis i pisać karespandencyi. Za hrošy i pažadańni ščyraja padziaka.

М. П. Карэспандэнцыю друкуем. Верш слабаваты і не цэнзурны.

J. P—cy: Za ŭsio ščyra dziakujem. Prośbu spaŭniajem. Adkaz piśmom budzie krychu pačakaŭšy.

„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 20. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.